«Народную Волю» выдаюць свабодныя журналісты для свабодных людзей.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**


# Народная Воля

**№ 2 (4460)**

8 студзеня 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*




**Рыгор БАРАДУЛІН**

*Божа, паспагадай усім*

*Божа, паспагадай усім, –*
*І магутнаму, і слабому,*
*І відушчаму, і сляпому,*
*Каб у згодзе жылося ім.*

*Божа, паспагадай усім, –*
*Каб вайной не йшоў*
*Брат на брата,*
*Каб ржавела сякера ў ката,*
*Каб вячэраю пахнуў дым.*

*Божа, паспагадай усім, –*
*Каб цяплелі пагляды людскія,*
*Каб у старца не кралі кія,*
*Нічыіх не кралі радзім.*

*Да любові, да чысціні,*
*Да святла, да святога ўлоння,*
*Усявышні, і заўтра і сёння*
*Заблуканыя душы вярні!*

АКТУАЛИИ

Светлана КАЛИНКИНА



# Под аплодисменты Давыдько

Старый год белорусские власти провожали арестами, а новый начинают с судов над теми, кто участвовал в акциях за независимость Беларуси.

Предновогодние новости напоминали сводки противостояния на оккупированных землях. Люди вышли на улицы родных городов в защиту своей страны, но их за это арестовывали, судили, штрафовали, вырывали на Новый год и Рождество из семей, от жен, от детей.

Кто так может поступать? Предугадываю ответ многих читателей: только оккупанты.

Или идиоты. Что, по-моему, и есть наш вариант.

За что наказывают людей, которые, зная о последствиях, все равно выходят на массовые акции сказать, что белорусская идея жива в сердцах белорусов? Что игра в расширение империи – это не будет игра в геополитические шахматы, где Беларусь – пешка. Люди вышли на акцию за Беларусь с лозунгом «Жыве Беларусь!». И если у нас белорусская власть, то за что этих людей наказывают?

За то, что они патриоты?

За то, что они граждане своей страны?

За то, что ради своей страны они готовы жертвовать собой?

Отдает ли отчет своим действиям министр внутренних дел Караев, посылая в суды своих бойцов свидетельствовать о каких-то правонарушениях со стороны тех, кто вышел на улицы в поддержку независимости страны? Если не понимает, какой имидж таким образом создает милиции, то, считай, в фамилии министра три буквы пропали – и получается Карателев.

По какому праву белорусские суды расценили как противоправные действия желание людей высказать позицию в защиту суверенитета своей страны? В каком законе они прочитали, что за публичное проявление патриотических чувств надо наказывать?

И не надо мне пудрить мозги про формальности – мол, нарушен закон о проведении массовых мероприятий, так как акции не были санкционированными. Если прохожий сиганет в Свислочь спасать тонущего, его ведь не накажут за купание в неположенном месте. И того, кто вытянул пьяного из-за руля авто, не накажут за незаконное присвоение полномочий сотрудника ГАИ. Наоборот, медаль дадут! Потому что человек, не раздумывая, бросился спасать других.

Люди, которые вышли на акции в поддержку белорусской независимости, вышли спасать свою страну. Их нельзя, невозможно за это наказывать! Но покарали. Покарали несправедливо и подло. И лично я настаиваю, что наказали не тех.

Если вы помните, есть у нас крупные общественные организации, которые финансируются из бюджета, накормлены, обласканы, успешны и благополучны. Имею в виду «Белую Русь» и БРСМ. Они всем рассказывают, что они – сила. Что они что-то решают. Что их сторонников – тысячи и тысячи.

Почему они не вывели своих людей на акцию «За Беларусь»? Почему они не вышли поддержать своего президента на сложных переговорах с Владимиром Путиным? Почему они всегда только там, где кормушка, и никогда не там, где должен быть какой-то несанкционированный, не по команде или разнарядке патриотический порыв?

Они даже не там, где их президент. Ведь Александр Лукашенко в интервью Алексею Венедиктову сказал, что понимает людей, которые вышли на улицы Минска в защиту суверенитета и независимости Беларуси. А вот лидер «Белой Руси» Геннадий Давыдько не понимает. Он только хайп во всем этом увидел.

*«Мне смешно и печально, когда некоторые средства массовой информации представляют напоказ публике девочку лет 7–8 с плакатом в руках: «Нет – интеграции!». Ребенка-то зачем использовать? Что эта девочка понимает в таких вопросах? И что вы сами понимаете? Нужно поймать хайп, хочется побузить, отметиться на растиражированной картинке?»* – заявил Геннадий Давыдько.

А теперь другая цитата – чтобы вы оценили уровень «интеллектуала» Давыдько и его понимание проблемы. «*Независимость? Но разве мы не можем свободно передвигаться через границы, искать работу там, где пожелаем? Какая еще степень свободы нужна?*» – рассуждал в разгар дебатов по поводу угроз интеграции с Россией лидер «Белой Руси».

Если все будут рассуждать так, как Давыдько, то право выйти из своей квартиры, из своего подъезда придется расценивать как доказательство независимости. А беспрепятственно свалить из страны – это, по Давыдько, вообще будет доказательством наличия всех мыслимых свобод! Может, еще и спасибо прикажет говорить, ботик целовать?..

Все это не смешно и даже не печально. Это трагедия! Что такой вот Давыдько имеет от Республики Беларусь почетное звание, награжден медалью Франциска Скорины, он бывший сенатор, сейчас депутат, лидер самой крупной созданной государством общественной организации. А, например, Павел Северинец – лидер и инициатор декабрьских акций в защиту независимости – шестой день рождения встретил за решеткой. Он у него 30 декабря, и в это время Северинец опять находился в изоляторе на Окрестина.

*«Свои 29, 30, 34, 35, 36, 43 сын встретил за решеткой: высылка в Малое Ситно Полоцкого района (29, 30), 34 (Американка), 35,36 (спецкомендатура в Куплино, в Пружанском районе). 43 – Окрестина… [Павел] никогда не мечтал встретить свой день рождения на экзотическом острове, в дорогом ресторане, где-то на шашлыках… Мечтал встретить его в свободной независимой Беларуси. Я очень хочу, чтобы твоя, мой сыночек, мечта сбылась!!!»* – написала на своей странице в «Фейсбуке» его мама, Татьяна Северинец.

Все нормальные люди и даже Геннадий Давыдько, если, конечно, он умеет мечтать не только о том, что измеряется деньгами, мечтают об этом. Потому что такого не может и не должно быть – чтобы патриоты в своей стране находились за решеткой. Чтобы их наказывали за любовь к Родине, за готовность эту Родину защищать. Это абсурд! Это преступление! Это исковерканное понимание государственных интересов. Это отказ от всех мыслимых ценностей.

Что происходит, когда смещается шкала ценностей? Если у человека, то про него мы говорим «нелюдь». Ибо то, что для большинства – зло, для него приемлемо, и наоборот. Ну а если смещается шкала ценностей у государства? Каковы последствия? Для государства это катастрофа. И именно к ней мы движемся под аплодисменты таких, как Давыдько.

***

**Для сведения:** Цитаты Давыдько взяты с сайта «Белой Руси» *https://belayarus.by/news/glavnye-novosti/esli-integratsionnykh-problem-ne-sushchestvuet-ikh-nepremenno-nuzhno-vydumat-vot-tolko-zachem-/*

СА СВЯТАМ!

# У нашых сілах з дапамогай Божай рабіць добрыя справы кожны дзень...

*(З паслання да Раства Хрыстова мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла, патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі)*



Сардэчна віншую ўсіх вас са светазарным і светавыратавальным святам Раства Хрыстовага!

Сын Божы прыйшоў на зямлю згодна з усеблагой воляй Бога Айца, Які бясконца любіць створанае Ім чалавецтва. Паводле слова свяціцеля Льва Вялікага, «ніхто не адлучаны ад удзелу ў гэтым святкаванні, бо падстава для радасці агульная для ўсіх. Гасподзь наш, Пераможца граху і смерці, не знайшоўшы ніводнага бязгрэшнага чалавека, прыйшоў, каб усіх зрабіць свабоднымі». Свабода ад зла, граху і путаў самой смерці – вось той бясцэнны дар, які прынёс усім нам Збавіцель, народжаны пад зводамі Віфлеемскай пячоры.

*Слава ў вышніх Богу і на зямлі мір, у людзях добрая воля!* (Лк. 2: 14) – такімі словамі ўславілі Ангелы нараджэнне Богадзіцяці. Звыш дзвюх тысяч гадоў хрысціяне з заміраннем слухаюць гэтае дзівоснае дабравесце пра Бога – Усяміласцівага Падаўца міру, невычэрпную Крыніцу мірнага ладу чалавечага быцця. Але вельмі важна для ўсіх нас, тых, хто верыць у Хрыста Збавіцеля, не толькі ўскладаць свае надзеі на Госпада і спадзявацца на Яго Промысел, але і самім імкнуцца набыць мірны настрой духу, стаўшы для свайго найбліжэйшага акружэння *блажэннымі міратворцамі*, пра якіх кажа Сын Божы ў Нагорнай пропаведзі (Мф. 5: 9). Мы заклікаcontainerы зрабіць нашы душы прыстанкам Богаўгоднай *добрай волі* і быць здольнымі рабіць добрыя справы.

Наша хрысціянская місія – рабіць дабро не ад выпадку да выпадку, але рэгулярна і пастаянна. У нашых сілах з дапамогай Божай рабіць добрыя справы кожны дзень.

Гасподзь заклікае ўсіх нас рабіць дабро па меры нашых магчымасцяў і памятаць, што ёсць такія добрыя справы, да якіх заклікаcontainerы ўсе хрысціяне. Гэта шчырае прабачэнне прычыненых нам крыўд і малітва за нашых блізкіх, сардэчнае спачуванне да людзей, якія жывуць у нястачы, і малітоўнае ўздыханне да Бога аб тых, каму мы не можам дапамагчы фізічна.

Калі мы будзем праяўляць больш цярпення, чуласці, увагі, павагі адзін да аднаго, калі будзем прабачаць і маліцца адзін за аднаго, то свет, у якім мы жывём, стане лепей. Калі мы хочам змяніць і накіраваць грамадства да дабра, святасці і праўды, то нам належыць пачаць гэты працэс з саміх сябе, з праабражэння нашых душ святлом Евангельскіх запаведзяў. Толькі ў гэтым выпадку благадатныя дары Духу Святога – *любоў, радасць, мір, доўгацярплівасць, добрасць, міласэрнасць, вера, лагоднасць, устрыманасць* (Гал. 5: 22-23) – могуць стаць пачаткам стварэння Царства Божага, якое, згодна са словам Хрыста Збавіцеля, унутры нас (Лк.17: 21).

Сардэчна жадаю ўсім вам, узлюбленыя ў Госпадзе Праасвяшчэнныя архіпастыры і пастыры, манахі і манахіні, дарагія браты і сёстры, каб прыклад набожных мудрацоў натхніў усіх нас на выкананне Хрыстовых запаведзяў, каб нам належным чынам далучыцца да ўсяленскага святкавання Раства Хрыстовага, прынёсшы Богадзіцятку Хрысту свае сціплыя, але шчырыя дары – справы дабра, любові і міласэрнасці.

«Хрыстос нараджаецца – услаўляйце! Хрыстос з нябёсаў – сустракайце! Хрыстос на зямлі – узносьцеся!» – абвяшчае ў гэтыя светлыя дні Святая Царква. Сустрэнем жа Госпада належнымі дарамі і прынясём Яму замест золата, ладану і смірны моцную веру, натхнёную надзею, дзейную любоў. Ушануем Богаўцялесненне саборнай малітвай, удзелам у богаслужэннях і святых Таінствах, непарушным адзінствам у Царкве Хрыстовай, якая ёсць *стоўп і ўмацаванне ісціны* (1 Цім. 3: 15).

Узрадуемся і ўзвесялімся, бо з намі Бог!

**У 2010 годзе замежныя пазыкі Беларусі складалі 8,4 мільярда долараў, а на 1 снежня 2019 года – 16,6 мільярда.**

**Ці не давядзецца наступным пакаленням беларусаў разлічвацца за даўгі сваіх бацькоў і дзядоў?**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# Анатоля Лябедзьку будуць судзіць. І не толькі яго

Перад праваслаўнымі Калядамі палітык атрымаў позву ў суд Фрунзенскага раёна Мінска, з якой вынікае, што 9 студзеня ў 10 гадзін будзе разглядацца адміністрацыйная справа, якая вядзецца ў адносінах да Лябедзькі па ч.1 арт.23.34 Адміністрацыйнага кодэкса – удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. Зразумела, што Лябедзьку будуць судзіць за ўдзел у акцыях за незалежнасць Беларусі, якія адбыліся 20 і 21 снежня ў цэнтры Мінска.

*«Улада, якая рэпрэсіруе сваіх грамадзян за абарону незалежнасці і суверэнітэт краіны, якую быццам бы прадстаўляе, альбо хворая, альбо чужая для Беларусі»*, – коратка пракаменціраваў сітуацыю Анатоль Лябедзька.

Як вядома, у краіне ўжо адбыліся дзясяткі судовых працэсаў, якія скончыліся альбо буйнымі штрафамі, альбо «суткамі». 8 і 9 студзеня ў судах будзе разглядацца яшчэ больш за 20 спраў. Позвы атрымалі актывіст **Вячаслаў Сіўчык,** мовазнаўца і амбасадар Беларусі ў ФРГ (1992–1994 гг.) **Пятро Садоўскі**, малады ўрач-стаматолаг, якая балатавалася сёлета ў парламент, **Алана Гебрэмарыям,** блогер **Мікалай Маслоўскі** і іншыя.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Леанід КУЛАКОЎ:

# «І нават з камеры было чуваць: «Жыве Беларусь!»

*Актывіст кампаніі «Еўрапейская Беларусь» распавёў «Народнай Волі», як сустракаў Новы год за кратамі.*




Нагадаем, што за акцыі ў падтрымку незалежнасці на розныя тэрміны былі асуджаны да адміністрацыйнага арышту 11 чалавек, і некаторыя з іх ужо выйшлі на волю.

На гэтым тыдні Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў пакінуў актывіст «Еўрапейскай Беларусі» **Леанід Кулакоў**.

27 снежня суд Першамайскага раёна Мінска паспеў асудзіць Кулакова аж за тры акцыі пратэсту: 7, 8 і 20 снежня. Публічнае выказванне свайго меркавання супраць паглыбленай інтэграцыі з Расіяй каштавала яму 10 сутак і 100 базавых велічынь штрафу (прыкладна 1200 долараў).

– Натуральна, я не спадзяваўся сустракаць Новы год у камеры, але атрымалася так, як атрымалася, – кажа Леанід Кулакоў. – 27 снежня пасля суда мяне адвезлі ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў, і, шчыра кажучы, тое, што 10 сутак давядзецца правесці ў гэтай установе, аптымізму не дадавала.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

МНЕНИЕ

## Михаил ПАСТУХОВ, доктор юридических наук, профессор:



– С точки зрения конституционного права и международных стандартов в современном государстве не должно быть «несанкционированных акций». Если гражданам гарантируется право на проведение митингов, собраний, шествий, пикетов, то власти (органы правоохраны) обязаны обеспечить реализацию этого права. За нарушение данного права, в том числе за отказ в проведении акции, применение насилия, задержания представители власти, в том числе работники милиции, должны отвечать как за преступление (ст. 424 УК).

*(Naviny.by.)*

*Дзякуй за тое, што Вы прачыталі гэты нумар. Адгукніцеся, калі ў Вас ёсць заўвагі, меркаванні, прапановы, тэмы, адрасы герояў будучых публікацый.*

**Тэл. (8 017) 328 68 71**

«Народная Воля»
в **Facebook** www.facebook.com/nv.online.info
в **Vkontakte** www.vk.com/nvonlineinfo

Народная Воля http://www.nv-online.info
8 СТУДЗЕНЯ 2020 г.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# СКОЛЬКО МОЖНО БОЛТАТЬ ОБ ОДНОМ И ТОМ ЖЕ?

Россия в очередной раз пощекотала нам, белорусам, нервы, прекратив в первый день нового года поставки нефти на нефтеперерабатывающие заводы в Новополоцке и Мозыре.

Предчувствуя такой недружелюбный шаг Москвы, наши высокие чиновники дружно заговорили о необходимости диверсификации источников поставки углеводородов в Беларусь. Заговорили не впервые. Так и хочется спросить: сколько можно болтать об одном и том же? Опять, потрепавшись, забудем о важной проблеме – россияне не стали окончательно обострять ситуацию и уже открыли кран.

Но как бы ни утрясались отношения с Россией, нам надо принять кардинальное решение: НПЗ должны быть экономически в состоянии покупать нефть по мировым ценам.

Да, Минск может понервировать Москву проблемами с транзитом нефти на Запад, заявив, что будет, например, забирать часть транзитной нефти себе. Это уже было со стороны Беларуси в нулевых годах во время очередного обострения вокруг российской нефти. Но это ли выход из положения? Осведомленное российское издание «Коммерсантъ» сообщило, что основной причиной конфликта между сторонами является цена российской нефти, которую белорусы хотят пониже. Ну и, естественно, все это увязывается с пресловутым российским налоговым маневром. Думается, причина разногласий кроется глубже. Нефтяной шантаж – это принуждение белорусского руководства к той самой «глубокой интеграции», которая, по замыслу кремлевских имперцев, должна закончиться поглощением Россией Беларуси как суверенного государства. Собственно, В.Путин этого никогда и не скрывал. Это попытка поставить экономику Беларуси на колени, оставить ее без моторного топлива. За нефтью последует и газ, который без контракта, по инерции Россия будет поставлять максимум еще два месяца. А может и перекрыть вентиль в любое время. В назидание. Напомним: в отличие от нефтяной газовая труба на территории Беларуси давно запродана Газпрому.

Сегодня нашим властям необходимо принимать экстренные меры по нейтрализации российских угроз. От дипломатических до экономических и политических. Не продолжать переговоры с Москвой на ее условиях, а отказаться от льготных российских цен на нефть и газ. Выстраивать чисто рыночные отношения с Россией, как это сделали давным-давно соседние страны. Параллельно интенсифицировать переговоры по поставке нефти из балтийских портов Литвы, Латвии, Польши и переговоры с Украиной по поставке нефти из Одессы. Думаю, руководство этих стран войдет в положение. Так, стало известно, что латвийские предприятия готовы предоставить Беларуси услуги по перегрузке, хранению и транспортировке нефти, которая пойдет не из России, о чем заявила представитель отдела коммуникаций Министерства транспорта Латвии И.Канцена.

Будет правильным рассмотреть возможность приостановки участия Беларуси в ряде интеграционных проектов с Россией. Как известно, вопрос о пролонгации функционирования двух российских военных объектов на территории Беларуси перенесен на текущий 2020 год. Раз уж дела приняли такой оборот, самое время сделать это решение предметом принципиального торга в вопросах «углубленной интеграции» с Российской Федерацией.

И наконец следует пойти на один из самых главных экономических шагов – это освободить в стране цены на моторное топливо, либерализовать рынок энергоресурсов. Тогда наши НПЗ станут конкурентоспособными. Автовладельцы – люди в своем большинстве не бедные, а доля энергозатрат в себестоимости продукции большинства белорусских предприятий не столь значительна. Словом, действия властей должны получить понимание и поддержку гражданского общества, простых людей. Суверенитет государства того стоит.

Лучше поздно, чем никогда…

ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ

# «Хай у мяне ў гэтым годзе сапраўды з'явяцца і асабняк пад Мінскам, і новы муж…»

*«Народная Воля» пацікавілася, якія дамы пабудавалі лідары беларускай апазіцыі і на якіх машынах яны ездзяць.*

У мінулым годзе А.Лукашэнка не аднойчы выказваўся пра фінансавы дабрабыт апазіцыйных палітыкаў. Пасля парламенцкіх выбараў ён сказаў: *«Які народ абярэ такую апазіцыю? І жыве апазіцыя на замежныя гранты: фонды Эберта, Адэнаўэра, амерыканскія фонды. Нідзе не працуюць – у добрых асабняках жывуць, на добрых аўтамабілях раз'язджаюць. Народ задаецца пытаннем: адкуль? Адказу няма…»*

Крыху пазней працягнуў тэму: *«Ну добра, калі гэтыя фонды Эберта, Адэнаўэра і іншыя пастаўляюць нашай апазіцыі грошы, а яны будуюць нешта і купляюць – гэта таксама інвестыцыі. Ну далі табе грант, ты пабудаваў дом, аўтамабіль купіў, ну дзякуй Богу, што грошы не пайшлі на статутныя мэты – на барацьбу з рэжымам!»*

Дык хто ж з апазіцыянераў жыве ў шыкоўным асабняку, ездзіць на дарагой іншамарцы?

## Генадзь Фядыніч адсправаздачыўся…

У інтэрнэце дагэтуль можна знайсці матэрыял пра багатую нерухомасць прафсаюзнага лідара Генадзя Фядыніча. Паведамлялася, што ён будаваў катэдж на грошы спонсараў з Даніі. Называлі нават адрас, дзе нібыта знаходзіцца радавое гняздо Фядыніча, – вёска Сухадол Дзяржынскага раёна.

– *Мяне ўжо не адзін раз трэсла падатковая інспекцыя*, – распавёў Генадзь Фёдаравіч «Народнай Волі». – *І да цешчы маёй, на якую аформлены дом, ніякіх пытанняў не ўзнікла. Падчас суда яна дэманстравала нават дакументы з банка, адсправаздачылася за кожны рубель! А дом пачала будаваць яшчэ ў 1995 годзе. У яе была нерухомасць, пасля смерці мужа яна ўсё прадала і пачала новую будоўлю. І на судзе пра гэта гаворка была, і сведак, і суседзяў у суд запрашалі. Не было за што зачапіцца! Усю маю маёмасць уздоўж і ўпоперак праверылі падчас суда па так званай прафсаюзнай справе…*

На некаторых сайтах пісалі, што Фядыніч хацеў набыць новую трохпакаёвую кватэру і нават унёс частку грошай, але потым адмяніў здзелку. Прафсаюзны лідар кажа, што кватэру хацеў купіць не ён, а ягоны малодшы сын, які працуе айцішнікам і мае вельмі добрую зарплату. Але потым сыну паступіла вельмі ўдалая прапанова па працы, і ён вырашыў, што жыць будзе не ў Беларусі. У Фядыніча ёсць і другі сын, але ён таксама не з'яўляецца салідным домаўладальнікам.

Яшчэ ў Фядыніча аўтапарк з некалькіх машын. Прычым зласліўцы сцвярджалі, што апошняе «Пежо» ў прафсаюзнага боса новенькае. Фядыніч пацвярджае: аўтамабілі на самай справе мае. Але яны не новыя.

– *Мая «Таёта» 1998 года, набыў я яе ў 2005-м. А калі маё «Пежо» сёння нехта набудзе за 3000 еўра, я буду вельмі рады, шчыра кажу! «Пежо» набываў не ў аўтасалоне, прыгналі з-за мяжы, бо на той час гэта было выгадна. Але мая «Таёта» сёння лепей, чым тое быццам бы новае «Пежо» 2005 года».*

## Ганна Канапацкая прадала дом

Экс-дэпутатка Палаты прадстаўнікоў Ганна Канапацкая ніколі на адсутнасць грошай не скардзілася. Яна мае заможнага бацьку – беларускі мільянер Анатоль Труханові ч крыху дапамагае сваім дзецям. Але Ганна да таго, як прыйсці ў Авальную залу, і сама мела добры заробак, пра што не раз распавядала журналістам.

Дарэчы, Канапацкая сцвярджае, што яе заробак у Палаце прадстаўнікоў быў 2200 рублёў, а за апошні месяц дэпутацкіх паўнамоцтваў яна атрымала крыху больш за 1600.

– *Відаць, нават на прэмію не напрацавала*, – гаворыць яна.

Уласнай загараднай маёмасці Ганна сёння не мае.

– *Пасля разводу з мужам мы прадалі наш катэдж*, – сказала Канапацкая «Народнай Волі». – *І на сёння ў мяне няма ні асабнякоў, ні лецішчаў.*

## Анатоль Лябедзька ездзіць на веласіпедзе

Былы лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька апошнім часам у сацыяльных сетках часта выкладае фотаздымкі, зробленыя побач з прыгожым домам. То траву косіць, то тэрыторыю ўладкоўвае, то проста на газоне адпачывае.

– *Дома ў вёсцы ў мяне няма*, – распавядае Анатоль Уладзіміравіч. – *Быў бацькоўскі, я туды прыязджаю час ад часу, але там гаспадарыць брат. Уласны асабнячок пакуль не набыў. Але, думаю, калі мы рэалізуем партыйную праграму «Мільён працоўных месцаў», то ўсё будзе магчыма! Пакуль жа езджу да нашых вельмі блізкіх сваякоў, якія маюць свой дом. І фота менавіта адтуль.*

У экс-лідара апазіцыйнай партыі ва ўласнасці ёсць гараж і аўтамабіль. Але за рулём Лябедзька не ездзіць – некалькі гадоў таму дактары адмовіліся яму выдаць медыцынскую даведку, неабходную для замены вадзіцельскага пасведчання.

– *Я імкнуся быць бліжэй да народа, карыстаюся грамадскім транспартам і езджу на ровары – зараз зімы цёплыя, ніякіх праблем няма, можна хоць круглы год катацца на двухколавым транспарце!* – тлумачыць палітык. – *Шчыра кажучы, я вось сам напружваюся, думаю, пра каго гаварыў Аляксандр Лукашэнка. Сёння выгадна быць не апазіцыянерам, а чыноўнікам! Напрыклад, следчыя прыходзяць да чыноўніка ад медыцыны сярэдняй рукі і знаходзяць у ягоным гаражы 620 тысяч долараў! Я не ведаю ніводнага прыкладу, калі такія велізарныя сумы знаходзілі ў апазіцыі. Калі ў мяне быўператрус, дык знаходзілі такія смешныя сумы, якія нават і агучваць, і канфіскоўваць было няёмка!*

## Таццяна Караткевіч шукае новага мужа

У апазіцыйных колах прайшла чутка, што недабудаваны катэдж пад Мінскам у мінулым годзе набыла сустаршыня кампаніі «Гавары праўду» Таццяна Караткевіч. І зараз яна там робіць рамонт.

Праўда, сама Таццяна Караткевіч шчыра пасмяялася, калі пачула гэтую навіну ад журналіста «Народнай Волі».

– *Я не валодаю ні дачай, ні кватэрай, і дома за горадам у мяне таксама няма*, – гаворыць Караткевіч. – *Наогул лічу, што трэба дамагчыся, каб у нас былі празрыстыя рэестры ўласнікаў жылля, тады ўсё стане на свае месцы. І кожны зможа паглядзець, хто і чым валодае, хто, што, дзе і калі купіў!*

*Я ў 2018 годзе, калі вылучалася дэпутатам, падавала дэкларацыю, і там не зафіксавана ніякіх пакупак нерухомасці. Кватэра запісана на маму, дачы ў нас ніколі нават сямейнай не было. Аўтамабіль – мужа, ён яго пасля разводу забраў. У нас засталіся пасля разводу цалкам нармальныя адносіны, але мог бы, напэўна, паступіць і па-іншаму. Аднак як ёсць, так ёсць…*

*Я вельмі адкрыта жыву, не змяніла свой адрас. Можа, некаму ўжо і хацелася б, каб я ў асабняку жыла, але яшчэ не.*

*Апошнім часам я сапраўды калі-нікалі друкую свае фотаздымкі з лецішча з лазняй, але гэта дом маіх сяброў! І таемна замуж я таксама не выйшла, новага мужа з асабняком пакуль не знайшла.*

*Адкуль ідуць гэтыя чуткі – не ведаю. Але я лічу, што іх нельга аспрэчваць ні ў якім разе! Хай усё збудзецца! Хай у мяне да канца гэтага года сапраўды з'явяцца і асабняк пад Мінскам, і новы муж. Дай Бог, каб усё гэта спраўдзілася! І ў іншых няхай таксама ўсе каласіцца!»*

## Алесь Бяляцкі: у нас проста перабудавана вясковая хата

Праваабаронца Алесь Бяляцкі любіць у «Фэйсбуку» дзяліцца фотаздымкамі ля свайго загараднага дома. Нядаўна разам з жонкай фарбаваў плот, потым саджаў кветкі.

– *У нас проста перабудавана вясковая хата*, – тлумачыць Бяляцкі. – *Яна знаходзіцца ў Ракаве. Была старая хата, якой больш за 50 гадоў. Адна палова пабудавана ў 1950-х, а другая яшчэ раней, і яе прыйшлося разваліць і абнавіць.*

*За якія грошы перабудоўвалі? За сямейныя. І не адзін год. Беларускае тэлебачанне нават спрабавала зрабіць рэпартаж адтуль, калі мяне затрымалі ў 2011 годзе. А потым і самі пасароменіся, бо паказваць не было чаго. Пабегалі па агародзе і ўсё.*

*Я люблю праводзіць час у загарадным доме, гэта добрая магчымасць псіхалагічна падсілкавацца ад прыроды, аддаліцца ад мінскай мітусні і клопатаў, якія штодзень дае праваабарончая праца.*

*Чаму Аляксандр Лукашэнка не-не ды і звяртаецца да гэтай тэмы? Ён спрабуе падкрэсліць фінансавую залежнасць дэмакратычнай апазіцыі ад знешняй падтрымкі. Але ў нашай сітуацыі, калі апазіцыя зусім выціснута з легальнага жыцця, казаць пра гэта не мае сэнсу. Трэба проста паглядзець на тыя дамы, якія будуюць чыноўнікі. У іх багацця значна больш, чым мае ўся апазіцыя разам!*

*Сёння створаны вельмі неспрыяльныя ўмовы для працы палітычных партый і арганізацый. У нармальных краінах такога няма, бо палітычныя партыі хаця б мінімальна, але фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту, асабліва калі маюць пэўны рэйтынг вядомасці.*

*А што тычыцца грантаў, то міжнароднымі грантамі і рознымі праграмамі падтрымкі зараз вельмі актыўна карыстаецца беларуская дзяржава. І для грамадскіх арганізацый якраз створаны такія ўмовы, што рэальна ніхто не можа карыстацца гэтай дапамогай. Неаднаразова бывала, калі не давалі магчымасці карыстацца нават самым нейтральным грантам. І гэтыя грошы проста вярталіся назад… Таму няхай улада спачатку паставіць усіх у роўныя ўмовы, а потым пачынае лічыць, хто і што мае. Чаму сёння не гаворыцца, што дзяржава мае дзясяткі мільёнаў грантаў ад еўрапейскіх арганізацый, і з іх усяго некалькі працэнтаў ідзе на падтрымку грамадскіх арганізацый?*

## Ігар Барысаў не возіць чамаданы грошай з-за мяжы

Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Ігар Барысаў мае ва ўласнасці толькі палову трохпакаёвай кватэры, якую нядаўна набыў у Мінску.

– *Другая частка кватэры належыць маёй дачцэ, а на маёй жонцы ўвогуле ніякай маёмасці не зарэгістравана*, – гаворыць Барысаў. – *Ці былі падставы ў Аляксандра Лукашэнкі казаць пра тое, што апазіцыя жыруе на заходнія гранты? У мяне складаецца ўражанне, што ў нашага прэзідэнта ёсць нейкі вобраз апазіцыі, які захрас у часе. Можа, з тых людзей, якія 25 гадоў таму сышлі з улады ў апазіцыю, і былі нейкія дамы, лецішчы, машыны. Я гэтага не выключаю. Але зараз тая частка людзей, якія ў мінулым былі ўплывовыя, ужо альбо састарыліся, альбо проста адышлі ад палітычных спраў.*

*Сёння калі апазіцыя і едзе некуды за мяжу, то прымаючы бок можа ім аплаціць гасцініцу, накарміць, заплаціць за квіткі. Гэта не забаронена законам аб палітычных партыях. Але чамаданаў з грашыма мы не бачым. Можа, Аляксандр Рыгоравіч сапраўды падкажа, куды звяртацца?*

**Марына КОКТЫШ.**

РАЗВІТАННЕ

# Ступень свабоды

## *Памяці Уладзіміра Станкевіча*



***На 70-м годзе жыцця памёр былы дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання Уладзімір Станкевіч.***

Прафесійная кар'ера Станкевіча-юрыста зрабіла імклівы рывок у 1990 годзе, калі ў сакавіку ён, старшы юрысконсульт калгаса «Беларусь» Мядзельскага раёна, быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета, а ў ліпені – намеснікам старшыні галоўнай парламенцкай камісіі – камісіі па заканадаўстве; пасада прыраўноўвалася да міністэрскай. Пры жаданні «правільна» будаваць адносіны з найвышэйшым кіраўніцтвам – спачатку з Кебічам, потым з Лукашэнкам – Уладзімір, я ўпэўнены, мог бы з цягам часу быць, да прыкладу, старшынёй Вярхоўнага суда.

Але ў яго быў іншы характар: ён не жадаў падыгрываць начальству і выконваць тое, што супярэчыла ягоным перакананням. У яго была высокая планка ўласнай годнасці і ступені асабістай свабоды (што ўвогуле было нечакана для чалавека, звязанага з савецкай юрыспрудэнцыяй).

Старшынёй парламенцкай камісіі па заканадаўстве быў Дзмітрый Булахаў. Праз два гады працы ў камісіі Статкевіч сышоў з пасады ягонага намесніка і прыняў прапанову Генадзя Карпенкі – стаў начальнікам маладзечанскай міліцыі. Карпенка тады працаваў мэрам Маладзечна, а намеснікам яго быў Віктар Ганчар. Не ўсе іх планы рэалізаваліся, але шмат якія рэформы ажыццявіць удалося. На пэўны час Маладзечна зрабілася ці не самым свабодным беларускім горадам, месцам з найбольш спрыяльным кліматам для бізнесу (там рэгістраваліся нават фірмы з офісамі ў сталіцы). Цяпер гэтага няма, але вуліцы, перайменаваныя ў гонар нацыянальных дзеячаў, засталіся.

З пераходам на працу ў Маладзечна Уладзімір Станкевіч зменшыў актыўнасць у апазіцыі і ўрэшце звёў яе да нуля (гэта супала і з адмовай Вярхоўнага Савета прызначыць рэферэндум аб датэрміновых выбарах; да ідэі БНФ правесці такі рэферэндум Станкевіч паставіўся крытычна). Ён увогуле значна радзей выказваўся на сесіях, магчыма, расчараваўшыся ў эфектыўнасці палітычнай дзейнасці.

Але ў часы, калі Уладзімір максімальна ўдзельнічаў у парламенцкай працы (1990–1991 гг.), ягоны ўдзел у апазіцыі быў вельмі эфектыўным.

Подпіс Уладзіміра Станкевіча стаіць пад усімі асноўнымі дакументамі Апазіцыі БНФ таго часу, пачынаючы ад заяў пра стварэнне парламенцкай групы БНФ і Апазіцыі БНФ у ліпені 1990 года.

Сапраўдным шокам для пракамуністычных мандатнікаў на другой сесіі Вярхоўнага Савета ўвосень 1990-га было прадстаўленне пакета эканамічных законапраектаў, якія распрацавалі дэпутаты апазіцыйнай фракцыі. Яны думалі, што «им бы только флажки да мова», а тут – канцэпцыя пераходу эканомікі да рынку, падмацаваная праектамі законаў.

Станкевіч удзельнічаў у распрацоўцы «зямельнага блока», бо не ўяўляў свабоднага чалавека без права быць поўным гаспадаром на сваёй зямлі. І менавіта Станкевіч прадстаўляў на сесіі альтэрнатыўны Кодэкс аб зямлі. Менавіта яму давялося адбіваць папрокі і з'едлівыя рэплікі праціўнікаў увядзення права прыватнай уласнасці на зямлю – таго падмурку, без якога чалавек не можа адчуваць сябе сапраўдным гаспадаром на зямлі. Наш закон набраў толькі 76 галасоў, і коласаўскае «купіць зямлю, прыдбаць свой кут, каб з панскіх выпутацца пут» на дзесяцігоддзі застанецца толькі марай. Тады нашы апаненты прыводзілі ў прыклад Польшчу, якая перажывала натуральны для перыяду рынкавых рэформ крызіс; што ж, сёння можна параўнаць эфектыўнасць сельскай гаспадаркі Польшчы і Беларусі. Можна параўнаць і ступені свабоды – як гаспадарчай, эканамічнай, гэтак і грамадскай, асабістай.

Вясной 1992-га Станкевіч разам з іншымі дэмакратычнымі дэпутатамі выступіў супраць парушэнняў пры даабранні новых членаў Цэнтральнай выбарчай камісіі (тады ў склад ЦВК упершыню ўвайшла і Лідзія Ярмошына).

А сапраўдным палітычным «зорным імгненнем» для Уладзіміра Станкевіча, як і для іншых дэпутатаў-дэмакратаў, быў жнівень 1991-га. Уладзімір выходзіў на Плошчу і падпісваў заяву супраць ГКЧП у дні, калі ніхто не ведаў, чым можа скончыцца такая актыўнасць. Ягоны подпіс – і пад патрабаваннем аб скліканні пазачарговай сесіі Вярхоўнага Савета, якой было наканавана ўвайсці ў гісторыю як Сесія Незалежнасці.

Ён запатрабаваў пайменнага галасавання па ўсіх пытаннях, якія разглядаліся на сесіі, і абнародавання вынікаў у прэсе, уносіў істотныя ўдакладненні па працэдурных момантах (для недасведчанага чалавека нібыта і неістотных, але вельмі важных для прыняцця галоўных рашэнняў, якіх мы дамагаліся, – спынення дзейнасці КПБ і КПСС і абвяшчэння Незалежнасці).

Вось фрагмент выступлення Уладзіміра Станкевіча 25 жніўня 1991 года, калі стала вядома, што ў Маскве Гарбачоў і Ельцын спынілі дзейнасць КПСС на тэрыторыі Расіі:

«*Сілаеў* (кіраўнік урада Расіі. – **С.Н.**) *адназначна сказаў, што Беларусь нам здрадзіла. Гэта чулі многія. Ім здрадзіла не Беларусь. Не варта атаясамліваць Малафеева і Дземянцея з Беларуссю. Але калі сёння мы не зробім тое, што зрабіла Расія ў адносінах да камуністычнай партыі, мы пацвердзім словы Сілаева і тым самым падставім беларускі народ, які не здраджваў ні дэмакраты, ні Расіі. Таму тут двух меркаванняў быць не можа. Бо адназначна павінна быць прыпынена дзейнасць гэтай партыі. І потым, нават калі суд дакажа яе невінаватасць, павінна адбыцца не аднаўленне яе дзейнасці, а рэгістрацыя, як і ўсіх іншых партый, пры дапамозе свайго статута і гэтак далей. Іншая справа, і вы цудоўна разумееце, – пасля таго, што адбылося, пасля прыпынення, які б суд ні даказваў правату гэтай партыі, у яе не пойдзе народ. Не пойдзе»*.

У момант, калі Дэкларацыі надаваўся статус канстытуцыйнай сілы (што юрыдычна і было абвяшчэннем Незалежнасці), Статкевіч прапанаваў выключыць з тэксту артыкул 12, які прадугледжваў распрацоўку і падпісанне новай Саюзнай дамовы (супраць гэтага артыкула 27 ліпеня 1990 года выступаў Народны Фронт).

Паводле стэнаграмы, 25 жніўня 1991 года, Уладзімір Станкевіч галасаваў «за» на ўсіх этапах прыняцця дакументаў, якія дэ-юрэ рабілі Беларусь незалежнай краінай.

А праз некалькі дзён ён падпісаў зварот дэпутатаў Апазіцыі БНФ да ўсіх жыхароў Беларусі з заклікам уключыцца «ў дэмакратычны працэс, у рух адраджэння вольнай суверэннай Беларусі». «У нашай культурнай, памяркоўнай дэмакратычнай Бацькаўшчыне ніхто не павінен і не будзе пераследаваць чалавека толькі за членства ў камуністычнай партыі ці камсамоле», – гаварылася ў звароце.

Гэты зварот быў пачуты далёка не ўсімі – і, як паказалі наступныя падзеі, значная частка насельніцтва яшчэ доўга не ўсведамляла (а некаторыя не асэнсавалі і сёння) каштоўнасць суверэннай дзяржавы для лёсу іх і нашчадкаў.

Але, каб гэтая незалежнасць адбылася, Уладзімір Станкевіч зрабіў усё, што магло ад яго залежаць.

**Сяргей НАВУМЧЫК,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Леанід КУЛАКОЎ: «І нават з камеры было чуваць: «Жыве Беларусь!»

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

**– Як вам умовы ўтрымання?**

– Увесь час я знаходзіўся ў камеры адзін, таму нават словам не было з кім перакінуцца. Папраўдзе кажучы, усё было даволі чыста, акуратна ды і з боку супрацоўнікаў ізалятара стаўленне да мяне было больш-менш нармальнае.

Хаця быў, што называецца, невялікі «наезд». У камеры ў мяне пачала моцна балець галава. Боль у скронях і ў патыліцы быў неверагодны, таму, калі станавілася зусім дрэнна, ляжаў. Медыцынскай дапамогі не прасіў, а вось калі знаходзіўся ў гарызантальным стане, то было лягчэй. І на мяне «наехалі». Маўляў, ляжаць забаронена, трэба хадзіць. Я тады ўжо і ўрача выклікаў. Той сказаў, што ў мяне павышаны ціск, і толькі пасля гэтага мне дазволілі ляжаць. Нават прыбягалі праз кожныя дзесяць хвілін і цікавіліся, як я сябе адчуваю. Пыталіся: можа, яшчэ нешта патрэбна?

**– Прагулкі былі?**

– Так, але ў камеры элементарна не хапала свежага паветра. Вокны пастаянна зачынены, дыхаць няма чым. Нават неба не бачна, таму сядзіш, як у склепе. Псіхалагічна няўтульна сябе адчуваеш. Мне як-ніяк ужо 60 гадоў, арганізму з гадамі ўсё складаней праходзіць праз такія выпрабаванні.

**– Некаторыя вязні скардзіліся на харчаванне ў цэнтры на Акрэсціна…**

– Падтрымліваю калег па няшчасці. За ўвесь час, пакуль быў за кратамі, не ўбачыў я ні бульбы, ні той жа макароны. Адна каша і катлеты, якія зляпілі невядома з чаго. Я еў толькі суп, які мне давалі, і практычна ад усяго астатняга адмаўляўся.

Але атрымліваў перадачы ад сяброў і знаёмых, так што не галадаў. І, безумоўна, адчуваў маральную падтрымку, бо пісалі лісты, дасылалі паштоўкі. З камеры нават чуў, як на вуліцы запускалі салюты і крычалі: «Жыве Беларусь!».

**– Дарэчы, а як сустрэлі Новы год?**

– Калі шчыра, то ніяк. Якое можа быць свята, калі ты знаходзішся за кратамі? Вясёлы карагод вакол ёлкі тут дакладна ніхто не ладзіць, і Дзед Мароз у камеру з падарункамі не прыходзіць. Таму сустрэў гэты год адзін і ў роздумах. Шчыра кажучы, было вельмі крыўдна, што ты выйшаў на вуліцу, каб абараніць незалежнасць краіны, а цябе за гэта адправілі за краты…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

АСОБА

## Вольга ІПАТАВА:

# «Я жыву Беларуссю...»

*На пачатку студзеня адзначыла юбілей вядомая пісьменніца і грамадская дзеячка **Вольга Іпатава.** У свой час яна ўзначальвала літаратурна-драматычную рэдакцыю Беларускага тэлебачання, была галоўным рэдактарам газеты «Культура», старшынёй тады яшчэ адзінага Саюза пісьменнікаў Беларусі. На яе творчым рахунку больш за два дзясяткі кніг, у тым ліку гістарычныя раманы пра часы Вялікага Княства Літоўскага. Апошнія гады пісьменніца жыве ў Канадзе, дзе дапамагае сыну гадаваць унукаў. Каб павіншаваць і распытаць пра жыццё-быццё, мы знайшлі яе і на другім баку планеты.*

**– Вольга Міхайлаўна, Новы год у Беларусі зноў прайшоў без снегу, пры плюсавой тэмпературы. Дзеці засталіся без снегавікоў, дарослыя – без магчымасці «сагрэцца з марозу»… А якім пачатак 2020 года выдаўся ў Канадзе?**

– У Канадзе трошкі халаднейшае, чым у Беларусі, надвор’е, і снегу было дастаткова, каб адчуваць, што на дварэ зіма і Новы год. Мы жывём у невялікім, па мерках Канады, гарадку ў сотні кіламетрах ад Таронта. Але ўнукі не засталіся без штогадовага сюрпрызу – яны разам з бацькамі паехалі на Ніягару, дзе ў навагоднія дні ладзіцца сапраўднае «дзіцячае царства» з рознымі забаўкамі і атракцыёнамі.



**– У кнізе «Лісты з Зэльвы» можна знайсці ўспамін Ларысы Геніюш пра тое, як ваш трохгадовы сын Руслан любіў спяваць беларускія песні: «Ой, ляцелі гусі з блоду» і «Золка Венела»… Як склаўся яго далейшы лёс?**

– Руслан па прафесіі – медык, анкагематолаг. Ён быў вымушаны з’ехаць з Беларусі, бо працы тут не знаходзіў. У яго ўзнікалі канфлікты – з-за маёй грамадскай і палітычнай дзейнасці. Сын быў вельмі засмучаны, з болем вялікім ад’язджаў. Цяпер ён працуе ў Канадзе па спецыяльнасці і актыўна займаецца беларускім рухам. У Таронта ёсць беларуская царква, дзейнічае Згуртаванне беларусаў Канады, і ён там – адзін з самых актыўных сяброў.

**– Наколькі ведаю, ваша нявестка – кітаянка?**

– Так. Цікава, што першы мой верш, надрукаваны яшчэ ў 1956 годзе ў газеце «Зорька», называўся «Кітайскім сябрам». Мы тады вельмі сябравалі з Кітаем, і, я памятаю, у нашай школцы ў вёсцы Забелле Бешанковіцкага раёна віселі партрэты Сталіна і Мао Цзэдуна. Так што мне ў гэтым бачыцца пэўнае наканаванне. У мяне вельмі добрая, разумная і адукаваная нявестка, мы з ёй жывём, як кажуць, душа ў душу.

**– Ці разумеюць нявестка і ўнукі, што іхняя свякроў і бабуля – пісьменніца і ёй патрэбны вольны час для творчасці?**

– Свой вольны час я вызначаю сама. Я не збіралася доўга жыць у Канадзе. Праўда, і не чакала, што ўнукаў будзе ажно трое...

**– Раней вы казалі: вось падгадую ўнукаў і вярнуся ў Беларусь канчаткова. Цяпер так ужо не гаворыце. Тэма вяртання перастала быць для вас актуальнай?**

– Не перастала. Падняць на ногі ўнука – як напісаць кнігу. Вось я і казала раней: вярнуся, калі «дапішу кнігу». А дзеці ўсё «пішуць» тыя «кнігі». Хочацца ўсе «кнігі дапісаць», і тады можна будзе вярнуцца. На жаль, мае ўнукі ўжо не адчуваюць, што родная зямля іх – Беларусь. Для мяне ж радзіма заўсёды лепшая за чужыну, дзе жыць камфортна, але няўтульна маёй душы. Бываючы ў Беларусі, я заўсёды еду ў Мір, дзе прыйшла на свет. У Мірскім замку створаны выдатны, на мой погляд, еўрапейскага кшталту музей, ён мяне моцна ўразіў. Душа мая ў тых мурах заўжды адпачывае. Калі ў чалавека знікае пачуццё роднай зямлі, ён памірае душой.

**– Калісьці славуты нямецкі пісьменнік Генрых Бёль выказаўся ў тым сэнсе, што рабочы стол пісьменніка павінен стаяць як мага далей ад радзімы. Ці пішацца вам у Канадзе?**

– Якраз у Канадзе мне не вельмі пішацца, хоць хочацца працягнуць серыю гістарычных раманаў пра эпоху Ягайлы і напісаць пра Соф’ю Гальшанскую, якая ў шлюбе з Ягайлам стала заснавальніцай магутнай дынастыі Ягелонаў. Але пакуль нешта перашкаджае. Не атрымліваецца ў мяне з Соф’і Гальшанскай патрыётка роднай зямлі. А калі ёсць нейкія перашкоды, то гэта знак творцу – ці варта ўвогуле пра гэта пісаць? Таму цяпер я збіраю матэрыялы пра Гіпербарэю. Вельмі зацікавіла мяне гэта напаўміфічная гісторыя пра тое, як была разбурана высокатэхналагічная цывілізацыя.

**– Летась вы былі ўзнагароджаны медалём «100 гадоў БНР». Наколькі істотна для вас мець узнагароды?**

– Любая ўзнагарода заахвочвае, уздымае творчы настрой, паколькі твая праца запатрабавана.

**– А якія ўзнагароды вы маеце ад дзяржавы?**

– Беларуская дзяржава ўзнагародзіла мяне ордэнам «Знак Пашаны» і медалём Францішка Скарыны. Лічу гэта высокай ацэнкай маёй творчасці.

**– Часам я гляджу на адзначанага нейкай прэміяй пісьменніка і думаю: а ці не ёсць тая ці іншая ўзнагарода ў ягоных вачах кампенсацыяй чытацкага прызнання, чытацкай увагі? Чытачоў меншае, наклады падаюць, у многіх творцаў узнікае адчуванне сваёй непатрэбнасці. А тут – знак увагі, медаль ці прэмія…**

– Пэўная рацыя ў вашых словах ёсць. І ўсё ж для сапраўднага пісьменніка, на мой погляд, важней за любыя ўзнагароды прызнанне чытачоў. Творцу моцна падтрымлівае вера ў тое, што яго творы будуць чытаць і пасля ягонай смерці, бо толькі творчасць дае адчуванне несмяротнасці. Перад Богам можна апраўдацца толькі творчасцю.



Вольга Іпатава з Іванкай Сурвіллай (злева)

**– Калі гадоў пяць таму ў Віцебску з’явіўся помнік князю Альгерду, шмат хто ўспамінаў ваш раман «Альгердава дзіда». Маўляў, без яго і помніка не было б. А вы так лічыце?**

– Наўрад ці мая кніга вырашыла справу з помнікам Альгерду. Але калі выйшла «Альгердава дзіда», мы з прыяцелькай Людмілай Несцяровіч правялі дзясяткі сустрэч у Віцебску. Насілі цэлыя сумкі тых кніг, выступалі па школах, бібліятэках, многа асобнікаў тады разышлося. Дапускаю, што нехта з абласных кіраўнікоў прачытаў раман і ўбачыў, што Альгерд мае самае непасрэднае дачыненне да Віцебска, да ўсяе Беларусі. Альгерд жа прысланяў дзіду да Крамлёўскай сцяны. Гара Паклонная ў Маскве так называецца таму, што маскоўскія баяры там яму пакланіліся, прызналі сябе пераможанымі і пэўны выкуп аддалі пераможцу. Таму імя Альгерда доўгі час замоўчвалася. Як жа ганарлівым расійцам прызнаць, што нейкі Альгерд ставіў на калені Маскву? А ў XIV стагоддзі Вялікае Княства Літоўскае было больш магутным за Маскоўскае. З Масквой у ВКЛ тады былі вельмі няпростыя стасункі. У рамане «Альгердава дзіда» якраз пра гэта і расказваецца.

**– Вы аўтарка гістарычных раманаў і аповесцяў «За морам Хвалынскім», «Вяшчун Гедыміна», «Залатая жрыца Ашвінаў», «Знак вялікага магістра», «Ахвяры свяшчэннага дуба»… А што на самым пачатку змусіла вас звярнуцца да такой далёкай гісторыі?**

– Мне хацелася нейкім чынам выказаць свой пратэст супраць таго, што нас змушалі жыць у чужой гісторыі, маліцца чужым багам. У 1970-я гады што мы ведалі пра сваю мінуўшчыну? Уявіце сабе, пасля маёй абсалютна бяскрыўднай аповесці «Прадыслава» ў «Советской Белоруссии» былі артыкулы проста з разгромнымі фармулёўкамі! У тым ліку афіцыёзнага гісторыка Абэцэдарскага. Сапраўдная беларуская гісторыя была тады пад забаронай. І вось гэта вымусіла мяне, філолага па адукацыі, заняцца нашай мінуўшчынай. У ёй такія асобы! Скажам, Усяслаў Полацкі – постаць, значная для ўсяго славянскага свету. А Еўфрасіння Полацкая – для ўсяго хрысціянскага свету. І я шторазу, калі прыязджаю на радзіму, еду ў Полацк пакланіцца ёй.

**– Вы згадалі Абэцэдарскага. Сярод ягоных антызаслуг – і цкаванне гісторыка Мікалая Улашчыка, які так і не змог вярнуцца на радзіму і працаваў над беларускімі летапісамі ў Маскве. У сваіх нядаўна выдадзеных мемуарах Улашчык успамінае, як у студыі Беларускага тэлебачання вы падаравалі яму вялікі букет.**

– Я памятаю тую сустрэчу, гэта быў запіс маёй перадачы «Ліра». Трэба сказаць, што «Ліра» мела вялікі розгалас у грамадстве, яе прыкрываў сваім аўтарытэтам старшыня Дзяржкамітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні Генадзь Бураўкін. Усе грамы і маланкі, што сыпаліся на нашу рэдакцыю, ён прымаў на сябе. Для Мікалая Улашчыка было вялікай радасцю прыехаць у Беларусь і выступіць перад вялікай тэлеаўдыторыяй. Я разумела, як яму цяжка ў Маскве займацца сапраўднай беларускай гісторыяй, якую і ў Беларусі мала хто ведаў. А без напоўненага ветрам нацыянальнай гісторыі ветразя ніводная нацыя не зможа плыць у шырокі свет.

**– Рэкамендацыю ў Саюз пісьменнікаў вам даў Васіль Быкаў. Хто яшчэ паўплываў на фарміраванне вас як асобы?**

– Найперш назаву Янку Брыля, які сябраваў з маім бацькам яшчэ з партызанскіх часоў. А яшчэ гэта і згаданы вамі Быкаў, і Данута Бічэль, і незабыўны Аляксей Карпюк, які проста цягнуў мяне ў беларускую літаратуру. Як я радавалася, калі, скажам, на ўроку матэматыкі, якую я цярпець не магла, раптам адчыняліся дзверы, і Аляксей Нічыпаравіч, не зважаючы на настаўніцу, камандаваў: «Вольга, на выхад!» Гэта значыла, што гродзенскія пісьменнікі едуць выступаць і бяруць з сабой мяне.

**– Ваш папярэднік на пасадзе старшыні Саюза пісьменнікаў Уладзімір Някляеў успамінаў, як яго папракалі дзеячы беларускай эміграцыі за празмерна вострыя канфлікт з уладай. Вы ж тады (1998–2002 гады) таксама знаходзіліся «на перадавой». Кампрамісы з уладай былі магчымы?**

– На той момант улада патрабавала, каб пісьменнікі сталі на калені і падтрымалі яе па ўсіх пазіцыях. Што было проста немагчыма. Пісьменнікі, відаць, дрэнныя палітыкі. Але яны працягваюць змагацца за нацыянальную культуру, ствараюць яе. Што да папрокаў з-за мяжы…. Адтуль падзеі заўсёды бачацца іначай. Калі б тыя, хто папракаў, жылі тут, яны разважалі б па-другому. Кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў не выступала супраць улады як такой, мы проста хацелі, каб улада спрыяла нацыянальнай культуры. Такой была пазіцыя Някляева, такой была і мая пазіцыя.

**– Беларусь чарговым разам перажывае перыяд «інтэграцыйнай ліхаманкі». Прычым з Мінска ўсё гучаць пажаданні пра раўнапраўныя, партнёрскія адносіны з Расіяй. А вы верыце ў такое раўнапраўе?**

– Як аптымістцы, мне хацелася б верыць, але, на жаль, рэаліі не даюць падстаў для такога аптымізму. Беларусь – намнога меншая краіна, чым Украіна, і нам адбіцца будзе нашмат складаней. І ўсё ж дружба народаў мусіць быць. Мы, беларусы, маем сваю гісторыю, сваю культуру, і сапраўдны расійскі інтэлігент мусіць гэта прызнаваць. Мы хочам жыць з усімі суседзямі ў сяброўстве, але – не ператварацца ў чыесьці губерні, адцураўшыся роднай мовы.

**– Як канадскія беларусы адзначаюць Каляды? Як святкуе іх ваша інтэрнацыянальная сям’я?**

– У беларускай царкве ў Таронта заўсёды адзначаюцца і народныя, і нацыянальныя святы. І мы з мужам Ягорам стараемся, каб унукам у гэтыя дні было радасна.

**– Вас не хапае ў Беларусі, дзе вас чакаюць не толькі шматлікія сябры і прыхільнікі. Па вас сумуе Мірскі замак, каля сцен якога вы прыйшлі на свет 75 гадоў таму. Чакаюць князь Альгерд на пастаменце ў Віцебску і князь Гедымін на пастаменце ў Лідзе – героі вашых кніг. А яшчэ чакае возера Шо на Глыбоччыне, дзе вы праводзілі летнія месяцы… Калі мы вас убачым у Беларусі?**

– Прызнацца, мне не хацелася б гаварыць пра тое, што апошнім часам у мяне чамусьці з’явілася боязь замкнутай прасторы, мне стала страшна заходзіць у самалёт. Але я кажу пра гэта, каб мае чытачы ведалі, што я жыву Беларуссю, яе навінамі, яе надзеямі. Часта ў думках я падарожнічаю па тых мясцінах, дзе бывала, дзе выступала, прыгадваю людзей, якія прыходзілі на сустрэчы – і… плачу. Але гэта слёзы любові.

**– Жадаю вам усё ж больш вясёлых эмоцый! І ад імя чытачоў «Народнай Волі» віншую з юбілеем!**

– Шчыра дзякую! Спадзяюся сёлета, паколькі ўнукі падраслі, канчаткова вярнуцца на радзіму.

**Міхась СКОБЛА.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## Дмитрий ШЕВЦОВ, бывший депутат Палаты представителей:

# «Из предложенных вариантов я выбрал именно этот»

*4 января коллективу 1-й городской клинической больницы Минска представили нового руководителя. Кресло главврача клиники было вакантно несколько месяцев, теперь его занял депутат двух созывов Палаты представителей, глава Белорусской ассоциации врачей **Дмитрий Шевцов**.*

Стоит отметить, что в трудовой биографии 47-летнего Дмитрия Шевцова несколько руководящих должностей. До избрания в парламент в 2012 году он возглавлял 34-ю столичную поликлинику, еще раньше был заместителем главного врача по медицинскому обслуживанию населения Жлобинского территориального медицинского объединения – там Шевцов трудился сразу после окончания Гомельского медуниверситета. Позже к диплому врача добавились «корочки» об окончании Академии управления при президенте и факультета иностранных языков для руководящих работников МГЛУ.



Новой должностью Дмитрий Шевцов доволен. *«Очень рад, что стал руководителем такой клиники! Это мой осознанный выбор»*, – отметил он нашему изданию. Мы дозвонились до него в праздничные дни: когда вся страна отдыхала, Шевцов работал – вникал в нюансы новой работы.

**– Дмитрий Евгеньевич, а долго размышляли, прежде чем принять предложение возглавить столичную клинику?**

– Из предложенных вариантов я выбрал именно этот, хотя были и другие, более значимые сами по себе. Но я остановился на том, где могу, как мне кажется, больше принести пользы, сделать что-то хорошее. Понимаю, что это работа с коллективом, с людьми, с пациентами, работа ответственная и трудоемкая. Но на самом деле организация здравоохранения – для меня это всегда было интересно…

Я стационарный врач. В свое время в 34-ю минскую поликлинику пришел из стационара, из Жлобинского ТМО, где был первым заместителем главврача, отвечал за организацию медпомощи в районе, и в моем подчинении были и стационары, и участковые больницы, и диспансер, и станции скорой помощи. Был очень большой объем работы.

**– У вас такая стремительная карьера, даже депутатом были дважды…**

– Четырежды. Просто не обращают внимания, что я был депутатом районного и Минского городского Советов депутатов, парламентская деятельность – не случайная для меня.

**– Кстати, вы же еще руководите Белорусской ассоциацией врачей… Наверное, будете отказываться, столько совмещений – это нелегко?..**

– Почему отказываться? Во-первых, это выборная должность... Конечно, дополнительный объем работы, но есть результаты. С этого года у нас наконец-то заработает адвокатское бюро: сейчас на стадии выхода все документы из Министерства юстиции. У нас есть свой офис, где разместятся адвокаты, которые будут решать вопросы правовой защиты и врачей, и медучреждений здравоохранения. Это профессиональные юристы, специалисты коллегии адвокатов. Это то, к чему мы шли!

**– И последний вопрос. Зачастую новый руководитель приходит со своей командой. С кадрами как будете работать?**

– Энергично! А если серьезно: я не сторонник каких-то кардинальных решений. В 1-й клинике работает грамотный коллектив… В процессе и я буду привыкать к коллективу, и коллектив – к моим требованиям. Думаю, все отладится и будет хорошо функционировать.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ШТРИХ

## Кадровые перестановки

Стоит отметить, что 1-я клиническая больница Минска – многопрофильное медучреждение, где медпомощь оказывается не только столичным жителям, сюда могут обратиться белорусы со всей страны, а также иностранцы. Больница является базой для кафедр кардиологии и ревматологии, нефрологии, УЗИ-диагностики, неонатологии и медицинской генетики БелМАПО, эндокринологии, внутренних болезней, анестезиологии и реанимации, акушерства и гинекологии БГМУ. В клинике трудится около 1,5 тысячи человек.

В июне 2018 года одним из фигурантов громкого «дела врачей» стал бывший главврач клиники **Олег Фомин**. В мае 2019-го его признали виновным в получении взяток на сумму около трех тысяч долларов и осудили на 4 года лишения свободы.

Осенью 2018 года 1-ю клиническую больницу Минска возглавил **Сергей Васильев** – практикующий врач-акушер, отец четверых детей. Однако уже через год, в октябре 2019-го, Васильеву доверили руководить ведущим медучреждением страны – РНПЦ «Мать и дитя», и с 4 января 2020 года в 1-й клинике новый главврач – Дмитрий Шевцов.

РЭГІЁН

## Яшчэ адна дзяржструктура…

*У Гродне з’явіцца Агенцтва па абслугоўванні сацыяльнай сферы: яно будзе займацца правядзеннем закупак для аб’ектаў яе інфраструктуры.*

Рашэнне аб стварэнні новай дзяржаўнай структуры прынята Гродзенскім гарадскім Саветам. Старшыня гарвыканкама **Мечыслаў Гой** патлумачыў, што зараз імкнуцца ствараць падобныя агенцтвы непасрэдна ў кожнай галіне, але цэнтралізаваная сістэма будзе больш эфектыўнай. Маўляў, яна скіравана ў першую чаргу на падмогу кіраўнікам медыцынскіх і навучальных устаноў.

*«Яна пазбавіць іх ад такіх няпрофільных заняткаў, як закупка шыферу, аўтаручак альбо афармлення яшчэ якіх-небудзь паслуг. А таму стварэнне агенцтва – правільны крок»*, – перакананы старшыня Гродзенскага гарвыканкама.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Са злодзеем на пару асудзяць і ахвяру

80-гадовая бабуля з Калінкавічаў паскардзілася ў міліцыю, што нейкі злыдзень залез у хату і ўкраў вялікую суму грошай. А міліцыянеры знайшлі ў хаце макавую саломку, якую старая прадавала наркаманам.

Слязамі заліла маёра
Бабуля – божы дзьмухавец:
– Такое здарылася гора,
Што мне цяперака капец!
Залез у хату злодзей нейкі
(А каб яму кілу займець!)
І грошы выграб да капейкі,
Што назапашвала на смерць.
Дзяцей нямашака, адна я
Жыву, як вока, што ўва лбе.
Калі праз дзень-другі сканаю,
Ніхто зямлёй не прыгрэбе,
Тым больш не зробіць дамавіну,
Калі «чарніла» не глыне…
Маёру аддадзім даніну –
Ён не застаўся ў старане:
Аператыўнікі з сабакам
Паехалі шукаць сляды.
Знайшлі яны…
Саломку з макам –
І гэта ўдача сапраўды!
Службоўцы выкрылі ахвяру:
– Дык вось ты грошы брала дзе!
Яна са злодзеем на пару
На лаву ўсядзецца ў судзе.
* * *
У сто гадоў і нават з гакам
Поп адпяе яе ў царкве.
А ўсіх, каго «карміла» макам,
Тым больш яна перажыве…

## Узяў у зубы цыгарэту – адшчыквай са свайго бюджэту

Пацыент бальніцы ў Наваполацку курыў у палаце. Супрацоўнікі МНС аштрафавалі яго амаль на 400 рублёў.

Я да гурмы курцоў належу,
Хаця сям'і не па нутру.
Магу я ў рот не класці ежу,
А цыгарэту закуру!
І нам, курцам, зусім пагана,
Калі ў бальніцы мы ляжым:
Курыць не выйдзеш і на ганак –
Такі бязлітасны рэжым.
Таму настрой паршывы, гадкі,
Знутры паскудства б'едца ў плеш…
Ажно свярбяць нясцерпна пяткі,
Пакуль «лякарства» не ўдыхнеш.
І ў дзецюка, відаць, таксама
Быў невыносны стан такі.
Без цыгарэт жыццё як драма,
Начамі сніліся бычкі.
Турмой здавалася палата,
А вертухаямі – ўрачы.
І не хапала толькі ката.
Ну хоць ты крычма закрычы.
І вось, нарэшце, цыгарэта!
(Яе паслаў няйначай Бог.)
Да ганка ці да туалета
Данесці «лекі» ён не мог.
Была палёгкаю зацяжка,
Калі ўзварваў у грудзі дым.
У рай патрапіў ён!
І цяжка
Яму зрабілася затым.
Усклікнуў доктар:
– Што я бачу?!
Ён бышцам вырас з-пад зямлі.
Дзядок «патрапіў пад раздачу» –
Яшчэ й пажарныя прыйшлі.
На дзецюка нагналі страху
І абліжылі штрафам так,
Што лепей галаву на плаху
Паклаў бы, мусібыць, бядак.
Курэц за кожную зацяжку
Аддаў з зарплаты сто рублёў
І рады быў, што ў каталажку
Яго службовец не завёў.
Курыць і сам, напэўна, кіну.
Пераканаўся: не хлусня,
Што грам адзіны нікаціну
Не толькі згубны для каня…
* * *
Каб люд забыў пра цыгарэты,
Каб не сціскаўся наш бюджэт,
Патрэбна сціплы вершык гэты
Змяшчаць на пачках цыгарэт.

## Плюнуць і не пакрыўдзіць

Думка, бывала, мяне паланіла,
Часта прыходзіла ў сон:
«Як бы мне плюнуць
Начальніку ў рыла,
Каб не пакрыўдзіўся ён?»

## Беларус меру ведае

Многа на свеце бывае спакус,
Я вам, аднак, канстатую:
Ведае меру заўжды беларус –
Лішняе ён занітуе.

## Прыглядзьцеся

Калі плыве к вам штось само,
Як дзеўка лёгкая ў прытоне,
Спярша прыглядзьцеся: а мо
Яно, так мовіць бы, не тоне?..

ПАЗІЦЫЯ

# Газета – не змяя, у якой два языкі

Паважаная рэдакцыя «Народнай Волі»!

Я часта набываю вашу газету ў кіёсках. Люблю яе за дэмакратызм, праўдзівасць і надзённасць. Але ёсць і ў вас адна загана – двухмоўнасць. Вы нібыта клапоціцеся, каб беларусы паважалі родную мову, а дзе ваша прынцыповая пазіцыя ў гэтым пытанні?

Вы скажаце: двухмоўная газета лепш выпісваецца і прадаецца ў шапіках, па-беларуску не ўсе разумеюць. А слоўнікі навошта? А работа над сабой? Няўжо кітайскую мову лягчэй вывучыць, чым беларускую?

Я перакананая, што «Народная Воля» шмат губляе якраз з-за сваёй двухмоўнасці. Многім беларусам гэткі яе статус не падабаецца. Газета ж – не змяя, у якой два языкі…

Дзве мовы – як дзве душы. Як не можа быць дзве душы ў чалавека, так не можа іх быць і ў цэлага народа.

Сёння людзям няма калі хадзіць на мітынгі і пратэставаць, трэба клапаціцца пра кавалак хлеба, які вельмі нялёгка зарабіць. Многія згаджаюцца на любую працу. Я, настаўніца (скончыла філфак БДУ), таксама працую не па спецыяльнасці – са школы была вымушана сысці. А што дрэнная я зрабіла? Больш за дваццаць гадоў вучыла дзетак роднай мове і літаратуры.

Праўда, у школу вяртацца ў мяне ніякай ахвоты няма. Там з настаўнікаў проста здзекуюцца – працуй з ранку да вечара, а заробак – кот наплакаў. І з такой школай мы хочам пабудаваць культурнае, высокамаральнае грамадства? Гэта проста немагчыма.

Шаноўная рэдакцыя, жадаю вам усё ж большай прынцыповасці ў моўным пытанні. Чакаю сапраўды БЕЛАРУСКАЙ «Народнай Волі»!

**Алена СЫМАНОВІЧ.**

*г.Маладзечна.*

# Ни перед кем не ползать на коленях

Добрый день, уважаемые сотрудники редакции газеты «Народная Воля»!

Пишет вам витебский пенсионер. Мне 65 лет.

Первое, что хочу отметить: двуязычие на страницах газеты – это хорошо и правильно. Нельзя не учитывать то обстоятельство, что значительная часть белорусов общается на русском языке.

Второе. Коснусь темы: с кем сближаться Беларуси – с Россией или с Западом? Год назад я, наслушавшись по телевизору бесконечной трескотни об интеграции, написал Самому письмо, в котором высказал свое мнение по этому поводу. Моя позиция – нельзя бросать белорусов в путинско-жириновский котел (это лично мой термин). И, похоже, со мной правитель страны согласен. Уверен, такую точку зрения разделяют и миллионы рядовых граждан Беларуси.

Безусловно, хорошие отношения надо выстраивать со всеми соседями – и с восточными, и с западными, а не смотреть в одну сторону. А если с кем-то не получается навести мосты – ничего страшного. Закатывать истерику не нужно. Все течет, все меняется, именно этой мудрости надо придерживаться. Конечно, мозги надо напрягать и умно реагировать на всякого рода санкции, но не ползать на коленях, скажем, перед той же Россией.

В самом деле, почему прибалты, поляки живут не хуже белорусов? Что, у них высокотехнологичные производства, недра богаты ресурсами? Вроде нет. (Кстати, просьба к вам, журналисты: пишите больше о том, как живут западные соседи.) А о жизни в России мы, кажется, достаточно насмотрелись по телевизору. Надоело их бряцанье оружием и унижение Украины.

Не ошибусь, если скажу: большинству белорусов ближе либерально-демократические ценности, чем тоталитарные, «традиционные» по Путину.

**А.П.СТАРОВОЙТОВ, бывший строитель.**

**Витебск.**

### АД РЭДАКЦЫІ

Шаноўныя чытачы!

Мы невыпадкова лісты А.Сымановіч і А.Старавойтава паставілі побач. І ў адным, і ў другім ёсць выказванне накшт таго, які моўны варыянт павінен прысутнічаць на старонках «Народнай Волі». Аўтар першага пісьма крытыкуе рэдакцыю за двухмоўнасць, другога – адзначае, што «двуязычие на страницах газеты – это хорошо и правильно».

Шчыра кажучы, для нас, журналістаў, якія ратуюць за нацыянальнае адраджэнне, гэта балючая праблема. Мы марым пра той час, калі ўсе матэрыялы ў «Народнай Волі» будуць друкавацца толькі на беларускай мове. Але… Ці толькі ад нас гэта залежыць? Сёння самая галоўная задача рэдакцыі – данесці аб'ектыўную, праўдзівую інфармацыю да як мага большай колькасці людзей. І да тых, хто добра валодае нашым родным словам, і да тых, у каго праблема з гэтай пазіцыяй.

У рэшце рэшт давайце абмяркуем набалелае ўсе разам. Для нас, супрацоўнікаў рэдакцыі газеты «Народная Воля», вельмі і вельмі важна прыняць максімальна правільнае, максімальна разумнае рашэнне.

АД ДУШЫ

# Дзякуй літоўскаму прэзідэнту і ўсяму народу суседняй краіны!



Больш за месяц мінула з таго дня, калі ў Вільнюсе адбылося перапахаванне парэшткаў Кастуся Каліноўскага і яго паплечнікаў. Мы ніколі не забудзем, як урачыста і ў той жа час не парушаючы хрысціянскіх традыцый усё было арганізавана на вышэйшым узроўні. Назаўжды ўвекавечана памяць пра мужных барацьбітоў за свабоду, паўстанцаў супраць расійскага каланіялізму, самааххвярных сыноў беларускага, польскага і літоўскага народаў. І сёння нам ад усёй дэмакратычнай грамадскасці нашай краіны хочацца выказаць удзячнасць прэзідэнту Рэспублікі Літва **Гітанасу Наўседу**, ураду і ўсім літоўскаму народу за бездакорную арганізацыю перанясення на вечны спачын нацыянальных герояў. Гэта гістарычная падзея яшчэ раз пацвердзіла еднасць беларусаў, літоўцаў, палякаў, украінцаў, латышоў.

**Наталля КАЧАНОЎСКАЯ, ГА «Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны»,**

**Ян ГРЫБ, Саюз беларускіх пісьменнікаў,**

**Аляксей МАРАЧКІН, грамадскае аб'яднанне мастакоў «Пагоня»,**

**Алесь ЧАХОЛЬСКІ, ГАХА «Курапаты».**

ХОЧУ СКАЗАТЬ…

# Демосоциализм – вот главная национальная идея белорусов

Национальная идея – это, на мой взгляд, понятие, объединяющее народ той или иной страны в его устремлении к лучшей жизни. Реализовать эту мечту без социально справедливого государственного устройства невозможно. Это подтверждают и исторический опыт, и реалии сегодняшней нашей жизни. К сожалению, тот уровень демократии, который мы имеем, очень низок для того, чтобы все слои общества были солидаризированы в главном – в выводе страны из политического и экономического застоя, в определении конкретных задач, которые нужно решать в ближайшей перспективе.

На данном этапе национальной идеей белорусов должен стать **демосоциализм**. Это такая политическая система, при которой существует настоящая народная власть, заботящаяся об укреплении своего государства, постоянном улучшении жизни людей, их безопасности, спокойствии и сохранении мира. Все граждане демосоциалистического государства имеют равные возможности для получения образования и всесторонего развития, равные права на творческий труд, отдых, социальное обеспечение. В процессе строительства демосоциализма создается развитая экономика, в результате происходит подъем благосостояния всех граждан нации.

Создавая у себя демосоциализм, народ страны никому не угрожает, но хочет, чтобы ему не мешали извне строить справедливое общество.

Создавая свой путь, нация не изолируется от других стран и народов мира. Она стремится участвовать в международной деятельности, в том числе и в экономической, но с соблюдением принципа заинтересованности и недопущения ущемления своих интересов.

Актуальность, необходимость и неизбежность построения демосоциализма – это и является сегодня национальной идеей белорусов.

**Алексей Петрович ЛАЗУРКИН.**

*Минск.*

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

# Сделай правильный выбор – не трусь!

Уважаемая редакция!

С интересом читаю материалы, публикуемые на страницах «Народной Воли». Полностью согласен с концепцией газеты.

Не за горами президентские выборы. Я по этому поводу сочинил четверостишие. Напечатайте!

*Беларусь ты моя, Беларусь,*
*Сделай правильный выбор –*
*не трусь!*
*И свобода твоя возродится.*
*Только бойся опять ошибиться!*

**В.СТЕПАНИЩЕВ.**

*Витебск.*

«НЕПРИЧЕСАННОЕ» ПИСЬМО

# За что нас так обидели?

Здравствуйте, дорогая редакция газеты «Народная Воля»!

Пишет вам пенсионер Виктор Иванович Ковальчук. Хочу рассказать о наболевшем.

Сейчас я на пенсии. Родом из деревни. Мои родители всю жизнь трудились, рубахи не просыхали от пота. Держали большое хозяйство, а мы, дети, помогали им во всем. Телят, поросят мама с папой сдавали на скотобазу, а деньги клали на сберкнижку, думали, что для детей будет помощь.

Мы, когда выросли, работали на заводе в три смены, тоже себе отказывали во всем, а деньги с зарплаты несли на сберкнижку, копили на квартиру. Доверяли государству. А государство несчастных бедолаг обмануло! Вклады пропали! Все эти годы мы надеялись, что нам выплатят наши сбережения, но так и не дождались.

Так кому же верить в наше время? Никому нет веры! Везде обман и дурман!

Ходили всей семьей голосовать на выборах 17 ноября. Проголосовали против всех. Нет у нас доверия к таким депутатам, которым плевать на простой народ.

Как теперь живут простые люди, которые работают на заводах, в сельском хозяйстве? Зарплата у очень многих маленькая. А какие цены! Лучше не заходить в магазины.

Когда все же вернут нам наши вклады? Пишу это письмо, а моя жена, дочь, внуки плачут! Как жить дальше, когда сплошной обман? Обидно за многих-многих рабочих, за деревенских людей. Кто-то жирует, а кто-то страдает на этом свете.

Почему у нас такое расслоение?! Богатые бесятся от богатства, а простые люди еле-еле выживают.

Дорогая редакция газеты «Народная Воля»! Куда нам обращаться насчет вкладов? Напечатайте наше письмо в «Народной Воле»! За что нас так обидело родное государство? За что мы страдаем на этом свете? Извините за откровенность, очень наболело.

**Виктор Иванович КОВАЛЬЧУК.**

*Гомель.*

ПРИГЛАШЕНИЕ

# У вас душа бунтаря?

Знаю, что у многих читателей «Народной Воли» трудные судьбы. У каждого не только своя боль, но и переживания за Беларусь.

В моих книгах (кстати, они опубликованы на сайте buntar.by) рецепт один: нужно словом, опираясь на подлинные документы, восстанавливать свою честь, бороться за свои права. Ложь и беснестье больше всего боятся огласки. Ибо светлое слово – мощное оружие правды.

Четыре года работает мой сайт. За этот небольшой временной период накопился поучительный опыт общения с читателями. Чувствую по отзывам, что сформирована определенная читательская аудитория, которая живо откликается на статьи, притчи, писательские размышления, изложенные в моем дневнике.

Самый посещаемый раздел сайта – документальные фильмы. Стремимся показать человека, проследить его поведение в экстремальных условиях. Пытаемся понять: расходятся ли его слова с делами?

Совсем недавно появилась новая рубрика «Народ и духовность». Как христианин, понимаю, что народ будет хорошо жить только в том случае, если его сердце будет наполнено светом веры.

Понимаю, как важно хотя бы из опыта других знать свои права и обязанности. И грамотно их отстаивать! Правду всегда стремились спрятать. И читатели «Народной Воли» понимают, что ОНА всегда будет стремиться к свету. Нужно этого желать.

Знаю, что читатели «Народной Воли» неравнодушные люди. Так заходите на мой сайт buntar.by. Буду благодарен за ваши замечания, пожелания, за ваши живые, неравнодушные отклики. Надеюсь, что они будут наполнены любовью.

**Валерий СОРОКО, предприниматель, член Союза белорусских писателей и Белорусского союза журналистов.**

СРАВНИТЕ!

# У нас и в Швейцарии

Уважаемая редакция!

С 2018 года жителей нашего дома стали приучать к раздельному сбору мусора. Как успешно это проходит, видно на снимке. Когда я спросил у одного из соседей, почему он бросает бумагу в контейнер, предназначенный для стеклянной тары, он ответил: «А ты посмотри, все равно и стекло, и бумагу, и пластмассу забирает одна машина».







Второй снимок, на который я хочу обратить внимание читателей «Народной Воли», сделан девять лет назад в Швейцарии. Посмотрите, какие аккуратные пластмассовые контейнеры, рядом – чистота и порядок. А почему бы и нам, белорусам, не стремиться к этому?

**Валерий РУСЕЦКИЙ.**

*Минск.*

ПАМЯЦЬ

# Ключы ад дома, у які не суджана вярнуцца

*Самы дапытлівы турыст можа пазайздросціць такому рытму: за тыдзень камандзіроўкі мы, група беларускіх журналістаў, наведалі восем музеяў у Варшаве, Гданьску, Гдыні. Праўда, адзін з іх – Музей гісторыі Польшчы – пакуль існуе толькі ў праекце, але штат супрацоўнікаў для стварэння цікавай і ўнікальнай экспазіцыі ўжо набраны. І пасля такога шчыльнага знаёмства разумееш: музеяў шмат не бывае.*
*Здавалася б, чаго прасцей: аб'яднаць у Музеі Другой сусветнай вайны экспазіцыі аб Варшаўскім паўстанні, Халакосце, Катыні?*
*Але занадта горкія і трагічныя гэтыя старонкі ў гісторыі палякаў, каб казаць пра іх мімаходзь. Ды яны і замоўчваліся вельмі доўга.*

## Алея адсутных у Катынскім музеі

Што бярэ з сабой чалавек, сыходзячы на вайну? У першую чаргу ключы ад дома, у які збіраецца вярнуцца. І нават у момант смерці не расстаецца з гэтым сімвалам роднай хаты, Радзімы ў цэлым.

Славамір Фронтчак, кіраўнік Катынскага музея, які размяшчаецца ў варшаўскай «Цытадэлі» разам з Музеем Войска Польскага, пачаў паказ экспазіцыі менавіта з ключоў. Створаны ў 1993 годзе музей пан Славамір узначаліў у 2001-м. А да гэтага была сімвалічная перадгісторыя. У 1991 годзе ў Варшаву прывезлі знойдзеныя ў ходзе афіцыйных раскопак пад Смаленскам асабістыя рэчы загінуўшых палякаў, і Фронтчака папрасілі дапамагчы выгрузіць іх са скрынь і разабраць. Тады ўпершыню ў Польшчы ў поўны голас загаварылі пра Катынскую трагедыю – пра расстрэлы палонных польскіх афіцэраў вясной 1940 года.

Ох, як доўга горкая праўда не магла перамагчы падступную хлусню! Толькі праз 50 гадоў пасля страшнай трагедыі, 13 красавіка 1990 года, тагачасны кіраўнік СССР Міхаіл Гарбачоў здзейсніў акт добрай волі: перадаў лідару Польшчы Ярузельскаму першую партыю дакументаў аб масавым знішчэнні органамі НКУС палякаў пад Смаленскам, у Харкаве, Кіеве, пасёлку Меднае непадалёк ад Цверы... Да гэтага Савецкі Саюз публічна адмаўляў сваю віну, перакладаючы яе на немцаў.

– Забівалі палонных у турме стрэлам у патыліцу, а затым вывозілі ў навакольныя лясы і скідвалі ў ямы, прысыпаўшы трупы вапнай, а зверху – зямлёй. Замест крыжоў саджалі дрэвы – каб ніхто не ведаў, што там ляжаць людзі. І толькі ў Катыні вязняў расстрэльвалі ў лесе. Знайшліся сведкі, якія паказалі месцы масавай расправы. Амаль усе нашы экспанаты знойдзены ў час раскопак брацкіх магіл, якія праводзілі польскія археолагі. Акуляры, заручальныя пярсцёнкі, лісты родным… І – ключы ад дома. Я спачатку нават здзіўляўся: чаму столькі ключоў? І толькі потым зразумеў, які гэта важны сімвал, – пан Славамір падводзіць нас да стэндаў.

Ключоў тут сапраўды шмат. Бо ішлі на вайну не толькі кадравыя афіцэры, але і закліканыя з рэзерву юрысты, пісьменнікі, артысты. Марылі вярнуцца дадому. І назаўжды засталіся ляжаць у лясах Расіі – амаль 22 тысячы расстраляных афіцэраў і салдат, вінаватых толькі ў тым, што ў нядобрую гадзіну апынуліся ў нядобрым месцы. У іх гонар у Катынскім музеі створана Алея адсутных, на якой пазначаны прафесіі тых, хто не вярнуўся на радзіму.

Самае парадаксальнае, што першыя раскопкі таемных савецкіх пахаванняў правялі вясной 1943 года немцы. І нават запрасілі на эксгумацыю парэштkаў прадстаўнікоў іншых краін. Але Савецкі Саюз не прызнаў сваёй віны і адразу пасля вызвалення Смаленска восенню 1943-га правёў уласнае расследаванне пад кіраўніцтвам аж дзвюх камісій: адну з іх узначальвалі прадстаўнікі НКУС, а другую – акадэмік Мікалай Бурдэнка.


Будынак, дзе размесціцца Музей гета.


Экспанаты Катынскага музея.

У пасляваеннай Польшчы не верылі ў савецкую версію, але казаць пра гэта ўслых было небяспечна. Шапталіся аб Катыні на кухнях, употай чыталі самвыдатаўскую літаратуру. І спадзяваліся дажыць да той пары, калі змогуць аддаць даніну памяці дарагім людзям. Многія дажылі. І дзякуючы музейшчыкам даведаліся аб апошніх днях мужоў, сыноў, бацькоў.

– Сёння мы ведаем аб Катыні многае, але не ўсё, – рэзюмаваў пан Славамір. – Пасля Гарбачова чарговую частку архіваў перадаў Польшчы Барыс Ельцын. Але, на жаль, да гэтага часу засталіся нерассакрэчаныя дакументы. У тым ліку і так званы беларускі спіс загінуўшых. Хоць у нашых вучоных ёсць свая гіпотэза, якая ўказвае на Курапаты.

Вось так трагічна перапляліся лёсы нашых народаў і дзяржаў: у польскую армію на пачатку Другой сусветнай вайны былі мабілізаваны і жыхары Заходняй Беларусі, далучанай восенню 1939 года да СССР.

## «Палін»: музей, дзе існуе рай

Каб уявіць, як будуць выглядаць музеі будучыні, трэба наведаць «Палін» – Музей гісторыі польскіх яўрэяў. Ён адкрыўся шэсць гадоў таму і дзівіць кожнай дэталлю: ад лаканічнага архітэктурнага аблічча, прыдуманага фінскім дойлідам Райнерам Махламякі, да экспазіцыі, размешчанай у васьмі тэматычных галерэях на 4 тысячах квадратных метрах. Дзіўны феномен: звонку будынак, пабудаваны амаль у цэнтры былога Варшаўскага гета, выглядае не такім ужо і вялікім, але ўнутры дзякуючы падземнаму паверху быццам пашырае памеры. Лес, Рай – так, так, быў залаты век для яўрэяў, выгнаных з Еўропы і дайшоўшых да Польшчы, маляўнічае яўрэйскае Мястэчка, каларытная местачковая Вулачка... Так называюцца раздзелы экспазіцыі. Здаецца, зрабі крок – і апынешся за столікам кафэ з кашэрнай ежай. І пачуеш вясёлую музыку. І нават станчыш на яўрэйскім вяселлі. Але раптам танальнасць рэзка змяняецца – пачынаецца вайна. А з ёй з'яўляецца новае для чалавецтва слова – Халакост...


Памятны камень на месцы гібелі вязняў гета.

Гэта вялікае мастацтва – пры мінімуме рарытэтных артэфактаў стварыць максімальна насычаную экспазіцыю, якая паказвае тысячагадовую гісторыю народа. Гульня святла, гуку, мультымедыйныя аб'екты і дэкарацыі, камп'ютарныя эфекты стварылі цуд! І гэты інтэрактыўны цуд можна глядзець гадзінамі, расшыфроўваючы кожны знак, кожную дэталь гарманічнай карціны.

А яшчэ, як сказаў галоўны спецыяліст-гісторык Артур Маркоўскі, музей «Палін» – гэта не толькі прадуманая экспазіцыя, а і паўнавартасная культурная ўстанова, дзе праходзяць мастацкія выставы, канцэрты, тэатральныя прадстаўленні, абмеркаванні кніжных навінак і нават адукацыйныя семінары – напрыклад, аб урэгуляванні сацыяльных канфліктаў, талерантнасці, агульначалавечых каштоўнасцях. Праводзіцца таксама актыўная работа са школьнікамі. Словам, удакладніў пан Артур, задача музея – будаваць масты: паміж яўрэйскай культурай і польскай, Захадам і Усходам.

## У памяць аб Варшаўскім гета

У красавіку 2023 года плануе прыняць наведвальнікаў яшчэ адзін музей – Варшаўскага гета. Падкрэсліваю: самастойны музей размесціцца ў спецыяльна адведзеным будынку – былой прыватнай яўрэйскай бальніцы для дзяцей, якая належала сем'ям вядомых у Варшаве філантропаў Берсанаў і Бауманаў.

Вельмі сімвалічная дэталь: дзіцячы шпіталь выконваў сваю лячэбную місію і падчас нямецкай акупацыі, апынуўшыся ў межах гета.

Ханна Венгжынек, намеснік дырэктара музея, раскладвае перад намі карту Варшавы з пазнакамі. Распавядае:

– Вясной 1940 года немцы пачалі распрацоўваць план па стварэнні Варшаўскага гета. Першапачаткова планавалі зрабіць яго ў Празе – так называецца адзін з раёнаў польскай сталіцы. Але потым вырашылі адвесці пад яго паўночную частку горада, густа заселеную яўрэямі. Больш за 100 тысяч палякаў былі выселены адсюль, а на іх месца прыбыло звыш 130 тысяч вязняў. Уявіце: на плошчы ў тры квадратныя кіламетры засялілі такую вялікую колькасць народу!

Па загадзе немцаў вязні працавалі па 12 гадзін у дзень без выхадных і святаў. Хворых, старых, аслабелых ад голаду і знясільваючай працы фашысты рэгулярна адпраўлялі ў Трэблінку і іншыя лагеры смерці. Тым, хто застаўся, нямецкая прапаганда паведамляла, што іх сваякі і сябры перасяляюцца на ўсходнія тэрыторыі. І ўсё-такі жорсткая праўда пра лёсы тых, каго тысячамі грузілі ў эшалоны, прасачылася і за трохметровыя сцены гета.

– У нас часта пытаюцца: чаму людзі пакорліва дазвалялі сябе знішчаць? – пані Ханна чакальна глядзіць на нас. І тут жа адказвае: – А вы ўявіце сабе змучаных, галодных вязняў, у якіх проста не было сіл супраціўляцца.

І ўсё-такі 19 красавіка 1943 года тут успыхнула паўстанне. Тыя, хто не хацеў пакорліва здацца ворагам, вырашылі, што лепш загінуць у няроўным баі, чым у газавых печах. На жаль, у паўстанцаў, хоць яны загадзя пабудавалі падземныя бункеры і сховішчы, не хапала зброі. Немцы знаходзілі іх схованкі з дапамогай сабак, ва ўпор расстрэльвалі, выпальвалі агнём. Прыкладна 7 тысяч паўстанцаў былі забіты, каля 6 тысяч згарэлі жыўцом... 16 мая Варшаўскае гета было канчаткова ліквідавана. Тых, хто ацалеў падчас страшных аблаў, немцы адправілі ў Трэблінку.

Сёння аб гэтай трагічнай падзеі нагадваюць помнікі і мемарыяльныя знакі. І выставы, якія праводзіць музей, хаця ён і знаходзіцца пакуль ў стадыі арганізацыі. Дарэчы, адкрыццё яго таксама прымеркавана да знакавай даты – 80-годдзя паўстання, якое скончылася так трагічна.

**Людміла СЯЛІЦКАЯ.**
*Варшава.*

ВІНШУЕМ!

# Прэзідэнтам Харватыі абраны сацыял-дэмакрат Зоран Міланавіч



Кандыдат ад апазіцыйнай Сацыял-дэмакратычнай партыі перамог у другім туры выбараў дзейнага кіраўніка дзяржавы.

Пасля падліку галасоў стала вядома, што Міланавіч апярэдзіў дзейнага прэзідэнта, прадстаўніцу кансерватыўнай Харвацкай дэмакратычнай супольнасці **Каліндy Грабар-Кітаравіч.**

ЗА РУЛЕМ

# Евросоюз: новые правила для автопроизводителей

*С 1 января европейские автопроизводители должны либо соблюдать новые правила, либо выплачивать крупные штрафы.*

*О каких предписаниях идет речь?*

Не более 95 граммов углекислого газа на километр – таков должен быть выброс $CO_2$ у новых легковых автомобилей, продаваемых в ЕС с начала года.

Со временем правила станут еще жестче.

Если автомобильная промышленность не достигнет прогресса, то производителям грозит штраф на общую сумму 32 миллиарда евро, что вдвое превышает предполагаемую прибыль.

Новые правила также могут стать причиной сокращения количества рабочих мест. Компания Audi ранее сообщила, что в ближайшие пять лет готова уволить до 9500 сотрудников в Германии. По словам автопроизводителя, это позволит выделить 6 млрд евро на инвестиции в электромобили и цифровые технологии.

*«В этом месяце немецкий автопром снова ухудшил свои позиции,* – говорит Клементс Фюст, президент Института экономических исследований IFO. – *Прогнозы скорее негативные. Сейчас мы находимся в сложном процессе трансформации. Пока не ясно, как выглядит будущее автомобилей с дизельными двигателями. Компании знают, что им нужно производить больше электромобилей, им нужны новые технологии привода. Это большие изменения для индустрии, потому что каждая десятая работа в этой отрасли связана с двигателем внутреннего сгорания».*

Со следующего года власти Германии планируют вдвое увеличить количество субсидий на покупку электромобилей. Европейская ассоциация автопроизводителей заявляет, что, несмотря на недавние успехи, количество автомобилей с альтернативными двигателями в пять раз ниже числа автомобилей, работающих на бензине.

Между тем исследователи рынка не ожидают каких-либо серьезных изменений. По их прогнозам, к 2025 году только 10,2 процента автомобилей будут работать на альтернативных двигателях, а к 2030 году эта цифра вырастет всего на 5 процентов.

Эксперты считают, что изменения в Европе могут стать положительным примером для других частей света, но только в том случае, если будет приложено достаточно усилий со всех сторон: властей, производителей и самих водителей автомобилей.

ИХ ДЕМОКРАТИЯ

# В США школьникам разрешат пропускать уроки из-за участия в акциях протеста

Государственные школы округа Фэрфакс в американском штате Вирджиния с 27 января 2020 года разрешат ученикам в течение учебного года пропускать занятия для участия в общественных мероприятиях, таких как акции протеста. Об этом сообщает газета The Washington Post.

По данным издания, подобная инициатива была одобрена на территории США впервые. Она распространится на учеников средних и старших классов – детей в возрасте от 12 до 18 лет. Учащиеся единожды в год смогут брать день отгула для «гражданской активности». В частности, ученики смогут участвовать в маршах протеста, сидячих демонстрациях или, например, поехать в столицу штата Ричмонд для встреч с законодателями.

Одобрения от администрации школы не потребуется. Необходимо будет, чтобы минимум за два дня до участия в мероприятии ученик заполнил специальный бланк, в котором он должен будет обосновать свое отсутствие. Также при себе у ученика должно быть разрешение от родителей или опекунов. По данным издания, заявка на участие в гражданской акции носит лишь уведомительный характер, и представители школы не смогут «наложить вето». В том случае, если учителя посчитают причину отсутствия школьника сомнительной, отгул можно будет оспорить в региональном управлении образования, но только после того, как мероприятие завершится.

При этом точное определение «гражданской активности» не указывается, для того чтобы учителя в зависимости от своих политических предпочтений не могли выбирать, какие именно акции их ученики будут посещать.

Автор данной инициативы и член школьного совета **Райан МакЭлвин** объяснил в своем Twitter, что она была внесена на фоне роста протестной активности учащихся.

НОВЫЕ ТЕХНОЛОГИИ

# Запчасти с грядки

*Как из мусора сделать автомобиль*

Что можно сделать из шкурки томата и яичной скорлупы? Ответ «мусор» явно устарел. В университете штата Огайо (США) из этого мусора делают автомобили. Точнее, автомобильные детали – причем такие, как втулки подвески, опоры двигателя, покрышки и шланги. Ученые убеждены, что эти пищевые отходы достаточно прочны, чтобы выдержать любую нагрузку: они могут заменить технический углерод (ключевой компонент для производства резины и пластмасс).

До сих пор бóльшая часть технического углерода получалась путем сжигания тяжелых нефтепродуктов. Американцы сделали соответствующие расчеты и решили, что биомасса для этого также сгодится. Дальше последовали эксперименты, которые в Университете штата Огайо увенчались созданием первых автодеталей из пищевых отходов.




Впрочем, в Америке это не первая попытка использовать органику при создании автомобиля. Начало биомоде положил еще Генри Форд: в 1920-е он пытался популяризировать биотопливо (этанол из сои, кукурузы и конопли), в 1930-е прослыл «королем бобов» (в каждом «Форде» примерно килограмм пластмассы был изготовлен из бобов, в основном это были кнопки и панели), а в 1941-м Форд представил первый «соевый автомобиль» (кузов из пластмассы, произведенной из сои и конопли, металлическими были только рама и мотор V8) и обещал в будущем и вовсе начать «выращивать автомобили на грядке». «Соевая машина» была всем хороша, да и весила на треть меньше железных аналогов, вот только внутри сильно пахло формалином, да и свое время задумка здорово опередила.

Не факт, что даже сейчас время пришло…

**На фото: «Соевый автомобиль» Генри Форда.**

